К 15-ЛЕТИЮ ЧЕРНОБЫЛЬСКОЙ АВАРИИ

# 3. “ДОЗИРОВАННАЯ ШУТКА”,

## или Шутка с дозами

*Профессор Георгий Федорович Лепин в 1986 году после аварии добровольцем отправился в Чернобыль. Работал там шесть лет на различных участках в пределах трех километров от эпицентра взрыва. Его документальные зарисовки позволяют с большей объективностью представить происходившее в те годы в чернобыльской зоне. Некоторые из этих зарисовок “Народная воля” предлагает вниманию читателей.*



**Георгий ЛЕПИН**



“Виктор, сколько у тебя сегодня?”

“0,7. А у тебя?”

“1.4, а вчера было 0.7".

“Что-то темнят наши дозики. Сегодня ведь все время были вместе, а получилось опять поразному”.

“Получилось? Ты думаешь, они пишут, сколько есть? Ну даешь! Знают они, сколько нужно вывести, вот и пишут, сколько надо”.

“А правда ведь, куда нас ни гоняют, а получается одно и то же”.

“Бросьте вы болтовней заниматься! Что вам не понятно? Дурят нас и только. Если писать, как есть на самом деле, то мы здесь больше недели не протянем, выводить придется. А так ребята по месяцу вкалывают и больше”.

“Братцы, идея есть! Давайте завтра...”.

Я оказался невольным свидетелем этого разговора, попав случайно в автобус, в котором возвращалась в Чернобыль бригада, работавшая на третьем блоке. За дословность передачи разговора не ручаюсь, так как многие слова мне пришлось заменить более-менее подходящими. А жаль, без тех слов трудно воспроизвести настрой компании в ходе этого короткого разговора.

Прошло несколько дней. Очень хотелось узнать, что же произошло “завтра”. Но на ловца и зверь бежит. Однажды вечером встречаю я того самого Виктора в “кормоцехе” — в нашей столовой. Мой вопрос вызвал неожиданно бурную реакцию. Словно прорвавшийся через некую преграду поток был столь энергичным, его водовороты и завихрения были представлены столь емкими и богатыми красками, что я в первый момент буквально растерялся. Мне казалось, что моего умения “плавать” недостаточно для того, чтобы справиться с этим обрушившимся на меня потоком.

После того как значительная часть ужина была поглощена, мой собеседник оказался в состоянии ответить, наконец, на мой вопрос.

“Следующий день начался, как обычно, с получения "карандашей". Сразу же после этого собрал я у всех своих ребят эти “карандаши” и пристроил их в один укромный уголок, где “светило” на совесть. Там и пролежали они до конца дня. Извлек я их оттуда и раздал ребятам. Ждем. Что же будет? Конечно, и к хорошей взбучке приготовились. Приходит дозик с листочком, на котором что-то написано. Ну, думаем, началось! А у него выдержка, ничего по выражению лица не прочтешь. Постоял он, изучая листок, и спокойненько начал “раздавать” нам сегодняшние дозы: 0,95; 1.2; 0,7; 1,1; 1,4; 0,8. Так вот и выдал всем шестерым. А мы, как дураки, смотрим на него, и языки отнялись. Чего угодно ожидали, но такого!.. Все, как и вчера, только местами поменялось. Он ушел, а мы сидим. И каждый, наверное, думает: лучше бы всыпали нам за эту “шутку”, чем вот так. Знали, что дурачат нас. Но чтоб совсем за недоумков принимали! Наверное, и листочек этот заранее заготовили, чтоб не терзаться каждый день. Вот и “пошутили”! Зато теперь поняли, за кого нас здесь держат".

Виктор насупился и замкнулся в себе, глядя куда-то сквозь меня, продолжал при этом старательно дожевывать остатки ужина. Встали и молча вышли из столовой. Чувствуя настроение парня, я не решался нарушить молчание. Успокоившись, Виктор закончил свое повествование: “Всю дорогу домой ехали, как пришибленные, молча. Не до шуток было. Оказывается, это не мы "пошутили", а с нами каждый день “шутят” — с дозами нашими. Зло шутят!"

О, какой ураган чувств способен вызвать иной раз один вид детских туфелек! Особенно если мастера сапожного дела не смогли окончательно изуродовать их. Смотришь на эту маленькую обувку и представляешь себе симпатичного карапуза, делающего на земле свои первые, еще не очень уверенные, шаги. И от нас, взрослых, зависит, куда, на какие дороги выведут этого карапуза его первые шаги по земле.

...Один из обычных домов в городе Припять. Вот по этим ступенькам осторожно спускался один из таких карапузов в то памятное утро 26 апреля 1986 года. Яркое весеннее солнце, ласкающая зелень газонов не могли не радовать его. Какое счастье — побегать по траве, погоняться за бабочкой, покопаться в песочнице! В одном из окон дома периодически появляется лицо разгоряченной субботними домашними делами молодой женщины и тут же исчезает: все в порядке, чадо ее занято делом — что-то строит в песочнице.

...Ноябрь 1987 года. Малыша и его мамы не видать. Гулкие звуки тяжелых сапог по ступенькам. Открыта дверь квартиры. В глаза сразу же бросаются маленькие туфельки, как бы ищущие защиты за большими ботинками хозяина квартиры. Но на этот раз они как-то не вызывают положительных эмоций. И вообще, вся эта аккуратно прибранная, уютная квартира, из которой вот “только что” и “совсем ненадолго” вышли хозяева, не радует. Может, потому, что дверь открыла не гостеприимная хозяйка, а работник припятской комендатуры. Или потому, что пришли не в гости, а с официальной миссией: осмотр квартиры, проверка уровня радиационной зараженности. У визитеров какая-то неловкость от того, что приходится осматривать то, что хозяевами явно не предназначалось для посторонних глаз. К тому же в предшествующих квартирах приходилось сталкиваться со многими сюрпризами, вызванными внезапностью выезда хозяев “всего на несколько дней”. И эта квартира тоже не обошлась без сюрприза.

Дозиметристы начали с прихожей. Очень “грязные” ботинки у хозяина. Где же был он в тот субботний день? Может, рыбачил в районе пруда-охладителя (рыба там и сейчас вызывает зависть у рыболовов)? А может, решил пробежаться за грибочками по тому лесу, который теперь называют “рыжим”? Как знать? Но ботинки очень “грязные”. Видимо, и для хозяина “субботняя прогулка” не прошла бесследно. Однако это не сюрприз: всем известно, что припятчане в большинстве своем не прятались после аварии в своих квартирах — они просто не знали о ней, никто не уведомил их об этом. Тут все ясно — это не сюрприз.

Ботинки в сторону. За ними — крохотные безобидные туфельки.

Безобидные?!

Вот в этом-то и весь сюрприз! Не чище они, чем папины ботинки! А ведь эти туфельки не топали по “рыжему лесу” — маловаты еще для этого. И вряд ли вообще удалялись они за пределы дома. Значит, для них вполне хватило той песочницы во дворе дома и той травки вокруг него. Вот и сохранили они память о том черном дне 26 апреля 1986 года. Сохранили, как могли, — ведь кое-что “коротко-живущее” из той грязи на них за это время уже распалось.

Вот какими были те первые шаги этого малыша... Вот на какую дорогу мы, взрослые, выпустили его в самом начале жизни, обманув его и притом жестоко. Неужели же никто из “начальников-молчальников” тех дней не подумал, сколь тяжелыми могут оказаться для этого малыша те первые шаги в человеческую несправедливость, в преступную безответственность?!

---

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# “ПАЛАНЕЗ” АГІНСКАГА

## Раздзелы з драматычнай паэмы



*Лета 1941-га. Мабілізаваны на вайну малады настаўнік Мірон Буёк уцякае, паранены, з палону і прабіваецца на ўсход, каб дагнаць фронт. Па дарозе спыняецца ў бацькоў у роднай вёсцы, дзе засталася яго каханая дзяўчына Волька Занямонец. Былы міліцыянер Іван Загрэбін (Ванёк), пакінуты для арганізацыі партызанскай барацьбы, угаворвае свайго сябра Мірона застацца на радзіме і весці змаганне ў партызанах. Тым часам вярнуўся ў вёску і родны брат Волькі Якуб, малады паэт, які тры гады назад быў арыштаваны ў Мінску як “беларускі нацыяналіст” — за тэкст да “Паланеза” Агінскага. Мірон ідзе ў партызанскі атрад, становіцца аўтарытэтным байцом. Загрэбін патрабуе ад Якуба, каб той стаў у немцаў іхнім, партызанскім, агентам. Адмовіўшыся, Якуб пад страхам пакарання пакідае родныя мясціны і перабіраецца ў Рыгу, дзе жыве і працуе яго сябра па няшчасці і адкуль з прыходам савецкай арміі ён будзе мабілізаваны на фронт. Як развіваліся падзеі далей — аб гэтым у апошніх раздзелах паэмы, якія і прапануюцца чытачам “Народнай волі”.*

**Аўтар.**

### VIII

*Пачатак лета. Сорак трэці год.*
*Грымяць расстрэлы. Вогняцца пажары.*
*Не змерыць гора. Не злічыць нягод.*
*Вайна і ў тыле ворага ў разгары.*

*Мірон, бывалы ўжо лясны салдат,*
*Нярэдка ў прыклад ставіцца атраду.*
*Адно душу гняце, што з пэўных дат*
*На стрэчах з Волькаю не стала ладу.*

*Чагось замкнулася ў сабе яна —*
*Ды так, што цяжка выцягнуць і слова.*
*Маўчыць і плача. Мучае віна?*
*Ці душыць крыўда? Ці з суроку злога?*

*Мірон здагадваецца: зніклы брат —*
*Таму прычына. І нічога болей.*
*Якуб... Відаць, зламаўся небарак.*
*На волю выйшаў, а жыве няволяй.*

*Сказала ж Волька ў тую ноч яшчэ:*
*“Ён павукоў баіцца...” Страх у фібрах*
*Сядзіць... І ён нікуды не ўцячэ*
*Сам ад сябе, ад дум сваіх няхітрых.*

*Страх зараз грозіць кожнаму бядой.*
*Трымцяць вяскоўцы: не дай Бог аблава!..*
*І ўсё ж настрой ужо ў людзей не той,*
*Што год назад быў, і паўгода нават.*

*Мацней адчуў і ўверыўся народ,*
*Што вызваленне ўжо не за гарамі.*
*А ў “зоне” партызанскі “агітпроп”*
*Ужо й канцэрты ладзіць вечарамі.*

*І сёння вось такі канцэрт ідзе,*
*На адвячорку, у Пушчанскай Ліпе.*
*Дзяцюк з гармонікам і рэй вядзе*
*І сам іскрыстыя куплеты сыпе.*
***Артыст.***
***Сербіяначка-цыганачка***
***Не стой на вуліцы:***
***Наша вуліца — паляначка,***
***Што ў лесе туліцца.***

***Ах, сербіянка-партызанка,***
***Ты сваім не здрадзіла.***
***Ах, раскажы нам, сербіянка,***
***Дзе мілога страціла?..***

**(У натоўп слухачоў урываецца з перакошаным ад гневу тварам Ванёк.)**
***Ванёк.***
*Спыніць! Спыніць і разысціся ўсім!*
*Замры, музыка! Скончаны забавы!*
***Галасы.***
*Ён што — напіўся? Што такое з ім?*
***Ванёк.***
*Мірон! Сюды бягом, ваяка бравы!*
*(Да Ванька з натоўпу прабіваецца Мірон)*
*Што — весялішся тут, такую маць?!*
*А бацька з маткай дзе — твае? Не знаеш?*
*Там, дзе й мае! На ямішчы ляжаць!*
*Забітыя ляжаць! Вось — сведку маеш!*
***Мірон.***
*Дзед Юлісь? Што... ты гэта бачыў сам?*
***Юлісь.***
*Так, дзеткі, бачыў... Сёння раніцою...*
*Іх завялі на ямішча і там —*
*Усіх... Яго й тваіх... Адной чаргою...*
*А нас сагналі каля школы ў гурт,*
*І старшы, рамянямі ўперазаны,*
*Сказаў, што будзе кожнаму капут,*
*Калі з сям'і хто пойдзе ў партызаны...*
*А мне ён загадаў, той старшы, каб*
*Я закапаў іх... У кар'еры гэным...*
***Ванёк.***
*Мірон! Па конях — і хутчэй у штаб!*
*Да камандзіра! Хай дазвол дае нам!*
*(Ідуць да прывязаных коней.)*
***Мірон.***
*Так, трэба ўзяць на Слабаду дазвол,*
*Каб пахаваць па-людску, развітацца.*
*Дык вось чаму я быў як сам не свой, —*
*Душою чуў, што нешта мусіць стацца...*
***Ванёк.***
*Ну беражыцеся! Пачнём грымець*
*І мы ў адказ! І ў вас ёсць таты-мамы!*
*Раз гэтак — кроў за кроў і смерць за смерць!*
*І вашых кінем ў кар'ер той самы!*
*Не, гадаўё! За смерць бацькоў маіх —*
*Я буду помсціць так, каб волас дыбам!*
*Да трэцяга калена выб'ю ўсіх!*
*І котлішчы пушчу з агнём і дымам!..*

### IX

*Праз колькі дзён па тым, як на кладах*
*Ванёк з Міронам пахавалі родных,*
*Іх грозны камандзір аддаў загад*
*Аб партызанскіх акцыях смяротных.*

*Каб трохі боль уняць, расслабіць злосць,*
*Ды і каб страхі на людзей аселі —*
*Па вёсках зоны ўсёй, дзе толькі ёсць, —*
*Ліквідаваць калабарантаў сем'і!*

*А каб ахвяры не змаглі ўцячы,*
*Даведаўшыся, што ідзе расправа, —*
*Усіх іх працягом адной начы*
*Схапіць і расстраляць на месцы прама.*

*Мірон, ад шоку адышоўшы ледзь,*
*Увесь яшчэ ва ўладзе смутку й болю,*
*Адчуў, што за бацькоў нявінных смерць*
*І ён гатоў даць гневу сэрца волю.*

*Той дзень чамусьці боль калоў вастрэй.*
*А ўвечары, ужо як згасла сонца,*
*Мірон пачуў, што ў спіску “на расстрэл”*
*Ёсць і сям'я Сцяпана Занямонца.*

*У першы момант ён аслупянеў.*
*“Не можа быць!..” Адчуў, як за грудзінай*
*У страх і жах перарастае гнеў,*
*І кінуўся бягом да камандзіра.*

*Той быў ужо прыклаўшыся крыху —*
*Як і штовечар, ды і ўдзень таксама,*
*І хоць зусім не рады быў Буйку —*
*Прыняў узрушанага партызана.*
***Мірон.***
*Таварыш камандзір, клянуся вам:*
*Яны не вінаватыя! Паверце!*
***Камандзір.***
*Хто?*
***Мірон.***
*Занямонцы! Я іх знаю сам!*
*Няма за што іх прысуджаць да смерці.*
***Камандзір.***
*Ого, як пафасна! Баец Буёк —*
*Адставіць пафас! І прашу запомніць:*
*Мы ўлада тут, і знаем кожны крок*
*Любога. Мы не чынім беззаконніц.*
*Ты Занямонцаў ратаваць прыбег.*
*А дзе іх сын? Дзе іх нацдэм зацяты?*
*У партызанах, можа? Немцаў б'е?*
*Ці ўцёк, збаяўшыся суда й расплаты?*
***Мірон.***
*Таварыш камандзір! Іх сын Якуб*
*Не стане немцам слугаваць ніколі!*
*Ён ненавідзіць іх! І быў бы тут,*
*Калі б не тыя тры гады няволі...*
***Камандзір.***
*Адставіць глупства! Вось табе мой сказ:*
*Ты — дрэнны сын: замест таго, каб смерцю*
*За смерць бацькоў спагнаць, ты ў гэты час*
*Спагады просіш здрадніцкай сямейцы!*
*Якая ганьба! Поста стыд адзін!*
*І гэта — лепшы партызан атрада!*
***Мірон.***
*Не здрадніцкай, таварыш камандзір!*
*Не здрадніцкай! У чым і дзе іх здрада?..*
***Камандзір.***
*Баец Буёк! Кру-гом! І шагам — арш!*
*Ты што — аглух? Ці захацеў пад арышт?*

*Мірон збялеў і задыхнуўся аж:*
*Мацней, чым гэты ўдар пад дых, не ўдарыш.*

*Ён выскачыў са штаба і бягом —*
*Да канавязі, да свайго Гнядога.*
*“Хутчэй, хутчэй, мой конік, наўздагон!*
*Каб апярэдзіць! Да бяды нядоўга!*

*Не дам расправу учыніць, не дам!*
*А там — хай будзе ўжо сабе, што будзе!*
*Як што — дык з Волечкаю напалам*
*Падзелім лёс у смерцявой астудзе!..”*

*Без сцежак, нацянькі, праз лес густы,*
*Праз баравіны, выспы і паляны,*
*Ён рваўся, абмінаючы пасты,*
*На Слабаду — злабой і страхам гнаны.*

*І вось ужо абрыс знаёмых стрэх,*
*Знаёмы двор, свіцяцца цьмяна вокны.*
*Мірон кулём з каня, і раптам — стрэл,*
*Услед — другі, і страшны лямант Волькі.*

*Ён, на бягу, чаргой кароткай даў*
*Па верхняй шыбіне, вышэй фіранак.*
*Святло пагасла ўміг. З дзвярэй, як здань,*
*Жанчына ў белым выбегла на ганак.*
***Мірон.***
*Ты, Волечка? Хутчэй бяжы! Уцякай!*
***Волька.***
*Мірон! Мірон!.. Ён іх забіў! Міронка!*
***Мірон.***
*Бяжы, заранaчка, бяжы! Бывай!*
*Я затрымаю гэтага падонка!*
*(Волька кінулася на загуменне.)*
*Гэй, ты, што ў хаце! Я — Мірон Буёк!*
*Ты чуеш там? Выходзь! Страляць не буду!*
*Ты — не патрэбен мне. Выходзь!*
*(Праз хвіліну з дзвярэй выходзіць, з аўтаматам напагатове, Загрэбін.)*
*Ванёк?*
*Дык гэта ты іх... без суда-прысуду?*
***Ванёк.***
*А ты — чаго тут?*
***Мірон.***
*Бог мяне паслаў —*
*Нявінных ратаваць ад рук ад братніх.*
*За што ты іх, Ванёк? Ты ж добра знаў,*
*Што іх віны няма...*
***Ванёк.***
*Ёсць! Сын іх — здраднік!..*

* * *

*Паўзводна, рад у рад, стаіць атрад.*
*Мірон, у сподні́м, — ад усіх на ўзбоччы.*
***Камандзір.***
*Увага! Смірна! Слухайце загад!*
*“За дызертырства, зробленае ўночы,*
*За прымяненне зброі, каб сарваць*
*Аператыўна важнае заданне, —*
*Байца Буйка Мірона — расстраляць!”*
*Прывесці прыгавор у выкананне!*

### X

*У родны двор пагодным летнім ранкам*
*Якуб зайшоў з салдацкім рэч-мяшком,*
*У бляклай гімнасцёрцы з акуратна*
*Пад рэмень падаткнутым рукавом.*

*Перахрысціўся перад ганкам, вочы*
*Далонню выцер, уздыхнуў глыбей,*
*І ў гэты міг пявучы голас Вольчын*
*З разнасцежаных вылецеў дзвярэй.*
***Волька.***
*Якубачка! Браток! Герой наш мужны!*
*А родненькі! А дзе ж твая рука?*
*А мамачка! А татачка! Чаму ж вы*
*Не сустракаеце свайго сынка?!.*
***Якуб.***
*Здарова, мілая сястра, здарова!*
*А слёз не трэба. Слёзы ты замкні, —*
*Як тата раіў... Хай яе з дарогай! —*
*Змарыўся страшна за чатыры дні.*
*Амаль не спаў: ні ў цягніках набітых,*
*Ні на вакзалах... Нават не прылёг.*
***Волька.***
*Хадзем жа ў хату! Божачка, які ты*
*Увесь змарнелы!..*
***Якуб.***
*Ну, здароў, парог!*
*Здаровы, сенцы! І здарова, хата!*
*А гаспадыня дзе? Дзе гаспадар?..*
*Даруй мне, мамачка! Даруй мне, тата!*
*Павек мне карай гэты страшны ўдар.*
*Даруй і ты мне, мілая сястрыца,*
*Што сіратою стала праз мяне.*
*Ні прымірыцца з гэтым, ні забыцца*
*На гэты боль я не магу і ў сне.*
***Волька.***
*Якуб! Не трэба так. Відаць, над намі*
*Такі ўжо лёс. Не мучайся дарма.*
*Я тут усё — і днямі, і начамі —*
*Абдумала... Тваёй віны няма.*
*Што пазвярэлі многія і кроўю*
*Упіцца праглі — ты тут ні пры чым.*
*Ты да людзей быў з Богам і з любоўю.*
*І бедаваў і думаў аб адным —*
*Што з нашым краем будзе? З Беларуссю?*
*Я помню ўсё, што ты мне гаварыў...*
***Якуб.***
*Ах, Волечка! Я ж думаў, што вярнуся*
*Да тых, хто свет мне гэты падарыў.*
*Ты завядзі мяне да іх магілы —*
*Пацалаваць зямлю на курганку...*
***Волька.***
*А як жа, сходзім, сходзім, братка мілы,*
*Але спачатку — адпачні крыху.*
*Я зараз бульбачкі звару, яечка*
*Спяку — як мама некалі пякла...*
***Якуб.***
*А заўтра ж, відаць, схаджу ў мястэчка,*
*Да дзядзькі. Як ён там? Даўно была?*
***Волька.***
*Даруй, браток, што я табе ў апошнім*
*Лісце не напісала пра бяду.*
*Забралі дзядзьку... Прама там, на пошце,*
*Дзе працаваў... І кануў — бы ў ваду.*
***Якуб.***
*Забралі?.. А за што яго забралі?*
*Што быў настаўнікам у час вайны?*
***Волька.***
*Не ведаю... Нічога не сказалі.*
*Прыйшлі, арыштавалі й павялі.*
***Якуб.***
*Ну, ясна... Тая ж клямка беларусу.*
*Цяпер ужо за тое, што не здох*
*Пад акупацыяй... Што хлеба лусту*
*Сумленнай працай зарабляў, як мог.*
*А да цябе сюды “энкавэдзісты”*
*Прыходзілі? Пыталі пра мяне?*
***Волька.***
*Яшчэ зімой... І я дала твой ліст ім.*
*Вось, бачце: ён — на фронце, на вайне.*
*І болей не чапалі, дзякуй Богу.*
*А што пытаць? Ці ж не відно і так?*
*Ты інвалідам стаў за перамогу.*
*Вось — вернасці тваёй найверны знак.*
*Я так, мой брачачка, перажывала,*
*Калі ты напісаў мне пра руку!*
***Якуб.***
*А мне, паверыш, як бы нават стала*
*Там, у шпіталі, спакайней крыху.*
*Падумаў: ну, цяпер ужо, напэўна,*
*І сапраўды я заслужыў давер —*
*Хоць гэткаю цаной неміласэрнай.*
*Нарэшце ўжо адчэпяцца цяпер.*
*Дазволяць мне на працу ўладкавацца*
*Па спецыяльнасці — і ціха жыць.*
*А сёння... Мушу я табе прызнацца —*
*Адчуў: душа, як і раней, дрыжыць.*
*Як толькі ты сказала мне пра дзядзьку —*
*Так і ўзмуцілася на сэрцы муць.*
***Волька.***
*Не, ты не бойся, брат! Табе ў аддзяку*
*За подзвіг твой спакойна жыць дадуць.*
*А як жа! Ты ж герой! Я дзесь чытала:*
*У Грэцыі калісь такіх, як ты,*
*Так моцна ўся краіна шанавала,*
*Што інвалід вайны быў — як святы!*
***Якуб.***
*Дык гэта ў Грэцыі!.. А ў нас калекі*
*Пайшлі ўжо з “Лазарам” па цягніках.*
*Ну, але ладна. Раскажы мне лепей,*
*Як ты тады перажыла той жах.*

***Волька.***
*Тады перажыла... Адгаласіла.*
*Адплакала. Адвыла. Адраўла.*
*Сама не знаю, дзе ўзялася сіла,*
*Што мне тады памерці не дала.*
*Тады... А потым... І не ўспомню, мабыць,*
*Калі мне стала лезці ў галаву,*
*Што я не маю права жыць і марыць,*
*І што цяпер я — не перажыву...*
***Якуб.***
*Ты гэта кінь! Вось выдам цябе замуж,*
*Сям'ю займееш, дочак і сыноў*
*Народзіш...*
***Волька.***
*Не. Нічога ты не знаеш.*
*І не кажы мне нават гэткіх слоў.*
*Яму, адзінаму майму ад Бога,*
*Не здраджу я ніколі і ні з кім.*
*Я не магу і думаць пра другое.*
*Маё жыццё закончылася з ім.*
*Які ён быў тады, той страшнай ноччу,*
*Калі прымчаўся нас ўратаваць!*
*Нібы архангел сам з нябёс саскочыў —*
*Каб між каханай і забойцам стаць.*
*Калі б ты чуў, якім мальбоўным крыкам.*
*Ён крыкнуў мне: “Заранaчка, бяжы!..”*
*А ты гаворыш... Не, дзеля прыліку*
*Я не вярнуся ў гэты свет чужы...*
***Якуб.***
*Я разумею, Волечка... Хоць сам я*
*Не знаў кахання гэткага... Але —*
*Ты мусіш жыць. Гаворана ж у псальме:*
*“Хай ворагі не ўцешацца мае”.*
*Патрэбна жыць, сястрыца, жыць! Нічога*
*Цяпер не бойся, калі поруч я.*
*Трымайся! А тым часам, з ласкі Бога,*
*І скруха паразыдзецца твая...*

### XI

*Галодны чэрвень. Страшны сорак шосты.*
*Аладкі з перамерзлай бульбы, “суп”*
*З мяцёлак вобаратніку — голы, посны...*
*Шыкуйся, інвалід вайны Якуб!*

*На службу не ўзялі нідзе. У школе*
*Істапнікам прапрацаваў зіму.*
*Галоўнае ж, што чым далей, тым болей*
*За Вольку страшна робіцца яму.*

*Не адыходзіць — ні душой, ні сэрцам.*
*Зусім ніякай хэнці да жыцця.*
*Бывае, цэлы дзень перад акенцам*
*Сядзіць, маўчыць, як хворае дзіця.*

*А сёння раніцай, яшчэ не ўстаўшы,*
*Якуб угледзеў, як яна ўзяла*
*Вяроўчыну і, пад каптан схаваўшы,*
*Як непрытомная, у клець пайшла.*

*Нутром нядобрае пачуўшы штосьці,*
*Ён падхапіўся — і кулём у клець.*
*А ўжо вяроўка на кручку... Ад злосці*
*Якуб няшчасную не ўдарыў ледзь.*
***Якуб.***
*Ты што?! Ты што?! Як ты магла такое*
*Уздумаць? Ты наважыла мяне*
*Пакінуць аднаго на полі боя?*
*І памагчы тым самым Сатане?..*
***Волька.*** *(Плачучы).*
*Даруй, Якуб! Даруй! Я не хацела*
*Цябе пакрыўдзіць... Проста ўся душа*
*Даўно сатлела ўжо іператлела*
*І не ўваскрэсла, і не адышла...*
*Дзеля чаго мне жыць, браток? Навошта?*
*Ты ж бачыш сам, Якуб! Ты ж бачыш сам!*
***Якуб.***
*Няпраўда! Нельга думаць так бязбожна!*
*Бог чуе нас — і ён паможа нам!*
*Хадзем адгэтуль!*
**(Вядзе яе за руку ў хату.)**
*Стань перад іконай*
*І папрасі, каб даравў Гасподзь,*
*І пакляніся ўголас, што ніколі*
*Не зробіш волі Божай насупроць.*
*Бог даў жыццё табе, як і любому,*
*Каб апраўдала ты ягоны дар,*
*А не рассталася з ім па-дурному,*
*Як нейкая няздарма між няздар.*
*Так, нам не цешыцца жыццём-забавай.*
*А для чаго тады, пытаеш, жыць?*
*Для нашай Бацькаўшчыны занядбанай!*
*Каб ёй, забытай Богам, паслужыць!*
*Мы больш сядзець не будзем, рукі склаўшы.*
*Пачнём выводзіць душы на прастор.*
*І для пачатку ў сельскім клубе нашым*
*Арганізуем беларускі хор.*
*Мы ж пець умеем! Ды і песень родных*
*Багата знаем. Вось і развіём*
*Работу. Знойдзем падтрымаць нас згодных —*
*Дзяўчат, жанок, бабуль... І запяём!*
*Сваёй жа песняй беларускай будзем*
*Да Беларусі зваць. Будзіць і зваць!*
*У барацьбе з атрутным словаблуддзем*
*Шмат душ так зможам мы адваяваць.*
*Я ўжо абдумаў гэта ўсё належна.*
*Пара! Пара ўжо штосьці нам рабіць!*
*І пачынаць з найпрастага, канешна.*
*Дык як? Бярэмся сцежку церабіць?*
***Волька.***
*Не ведаю, браток... Яшчэ мне цяжка*
*Неспадзяваны план твой успрыняць.*
***Якуб.***
*Ах! Прынясі сюды маю біклажку —*
*Там кропля горкай... Колькі ёй стаяць!*
*Ляпейшай можа і не быць нагоды,*
*Чым гэта: значыць, чыста і да дна!*
*За наш пачатак шляху да свабоды!*
*За веру нашу! Каб жыла яна!*
*Каб не ўмірала ў беларускіх сэрцах!*
*Каб у вяках ёй не запалынець!..*
*(Выпіваюць.)*
*Ну, а цяпер — у знак яе бяссмерця —*
*Спяём наш беларускі “Паланез”.*
***Якуб і Волька*** *(пяюць).*
***Край ты наш крывіцкі, родны край!***
***Зямля дзядоў спаконная!***
***Не трэба нам ніякі іншы рай —***
***Апроч цябе, зямля зялёная,***
***Блакітная, спакойная,***
***Толькі — будзь сама сабой!***
***Заўсёды будзь сабой,***
***Павек вякоў — сабой,***
***Павек вякоў свабоднай будзь,***
***Свабоднай будзь!***
***Свабоднай будзь!***
***З няволяю ліхой,***
***Няволяю праклятаю не знайся!***

***Ведай, што***
***Касцьмі паляжам мы,***
***Касцьмі паляжам мы,***
***Касцьмі паляжам мы, —***
***А вера матчына***
***Не будзе страчана,***
***Не будзе страчана,***
***Не будзе страчана,***
***Не будзе!***

***Край ты наш ліцвінскі, родны край!***
***Навек нам Богам дадзены!***
***Ты толькі вер і помні, вер і знай:***
***Што завяшчалі нам дзяды і прадзеды —***
***Таму не здрадзім мы!***
***Волька.***
*Чакай! Чакай, Якуб! Машына стала*
*Наўпроць. Ваенныя да нас ідуць.*
***Якуб.***
*Да нас? Якая трасца іх прыгнала?*
*От, гады! Песню скончыць не дадуць!*
***Волька.***
*Якуб! Мне страшна. Што ад нас ім трэба?*
***Якуб.***
*Не бойся! Хай сабе ідуць. А мы —*
*Пяём далей! Пяём! Ды так, каб рэха*
*У шыбы дзынкала, як у званы!*
*(Пяюць больш голасна і ярасна)*
***Толькі — будзь самім сабой,***
***Заўсёды будзь сабой,***
***Павек вякоў свабодным будзь,***
***Свабодным будзь!***
***Свабодным будзь!***
***З няволяю ліхой,***
***Няволяю праклятаю не знайся!***
*(Энкавэдзісты тым часам зайшлі ў хату. Стаяць і глядзяць недаўменна: маўляў, што яны — звар'яцелі?)*
***Ведай, што***
***Касцьмі паляжам мы,***
***Касцьмі паляжам мы,***
***касцьмі паляжам мы, —***
***А вера матчына***
***Не будзе страчана,***
***Не будзе страчана...***
***Энкавэдзіст.***
*Адставіць песню!.. Я сказаў: адставіць!*
*Вы што — аглухлі? Замаўчаць і ўстаць!*
*(Песня абрываецца. Якуб і Волька ўстаюць)*
*Ты — Занямонец?*
***Якуб.***
*Я. А што цікавіць?*
***Энкавэдзіст.***
*Маўчаць! Пытаю я, раскурвы маць!*
*Ты з-пад канвою ўцёк у сорак першым?*
***Якуб.***
*Я не ўцякаў. Уцёк ад нас канвой.*
*Пакінуў нас сярод дарогі пешых...*
***Энкавэдзіст.***
*Маўчаць! За ўцёкі ўдвоім тэрмін твой!*
*Ты ў школе, што адкрылі фашыстоўцы,*
*Вучыў дзяцей, як Гітлеру служыць?*
***Якуб.***
*Не, я настаўнічаў у роднай школцы,*
*Дзяцей вучыў Радзімай даражыць...*
***Энкавэдзіст.***
*Збірайся жыва! Вось на арышт ордэр.*
***Волька.***
*Чакайце! Што ж гэта? Зноў без віны?*
*Ён — інвалід вайны! Герой народа!*
*За што яго? Вы — людзі ці звяры?*
***Энкавэдзіст.***
*Маўчаць! Бо і цябе, свіное скрэбла!..*
***Якуб.***
*Не плач, сястра. Трымайся і трывай.*
*Як бачыш: жыць табе на свеце трэба.*
*Ёсць для чаго. Ну, а пакуль — бывай!..*

***1999***

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ-2001

**У Мінскі гарвыканкам пададзена заява з просьбай даць дазвол на правядзенне ў цэнтры сталіцы 26 красавіка з 17.00 да 19.00 мерапрыемстваў, звязанных з 15-й гадавінай чарнобыльскай катастрофы.**





**У гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія фашысты знішчылі на беларускай зямлі 619 вёсак разам з жыхарамі.**

**Пасля Чарнобылю краіна страціла 485 вёсак і пасёлкаў: 70 з іх ужо навечна пахаваны ў зямлі.**

**У часы вайны загінуў кожны чацвёрты беларус.**

**СЁННЯ КОЖНЫ ПЯТЫ ЖЫВЕ НА ЗАБРУДЖАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ.**

**ГЭТА 2,1 МІЛЬЁНА ЧАЛАВЕК, З ІХ — 700.000 ДЗЯЦЕЙ.**



